# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 22 (50) 14—20 ліпеня 1993 г. Цана 5 рублёў

## НА 6-ЦІ БАЧЫНАХ:



**15 ЛІПЕНЯ 1410 ГОДА АБ'ЯДНАНАЕ ВОЙСКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І КАРОНЫ ПОЛЬСКАЙ ПЕРАМАГЛО КРЫЖАКОЎ ПАД ГРУНВАЛЬДАМ.**

**СЛАВА АБАРОНЦАМ РАДЗІМЫ!**



У горадзе прайшлі традыцыйныя, трэція па ліку, Шагалаўскія дні. Яны былі прысвечаны не толькі Вялікаму Майстру, а і ягонаму Настаўніку, прадстаўніку віцебскай мастацкай школы І. Пэну. У рамках свята ў Мастацкім музеі адкрылася выстава «І. Пэн і яго вучні».

На здымку: навуковыя чытанні—адна з самых цікавых і неад'емных частак Дзён, што ладзяцца Шагалаўскім камітэтам і ягоным старшынёй, пісьменнікам Д. Сімановічам (злева). З дакладам выступае аспірант Інстытута мастацтва, этнаграфіі і фальклора АН Беларусі Г. Ісакаў.

Н. ПРЫСУТНЫ.

## А футбол важней

Футбольныя баталіі сталіся для народнага дэпутата рэспублікі Генадзя Карпенкі болей прываблівымі, чымсьці парламенцкая заканатворчасць.

Пасля сваіх нападак на Станіслава Шушкевіча і ўдзелу ў галасаванні супраць яго, ён, пэўна, палічыў сябе вольным ад сесіённых спраў і прыехаў у Віцебск, каб «пахварэць» за любімую каманду.

7 ліпеня, калі не было кворума на сесіі, Г. Карпенка моцна пляскаў у далоні ўдалым фінтам сваіх любімцаў на футбольным полі, магчыма, тым самым паказваючы, што далейшы лёс краіны яго мала цікавіць.

Аднак прагул дэпутата прынёс пэўную карысць камандзе. Мо натхнёныя прысутнасцю на трыбуне народнага выбранніка футбалісты «Маладзечна» абыгралі віцебскі «КІМ» з лікам 2:0.

Язэп КАЛЮЧКА.

## Прагназавалі верна

Некалі мы прадказвалі хуткі прапагандысцкі наступ грамадоўцаў на выбаршчыкаў. І вось усё часцей сацыял-дэмакраты выступаюць у мясцовых сродках інфармацыі. Напрыклад, 5 ліпеня яны прадстаўлялі па абласным ТБ сваё бачанне рэарганізацыі калгасаў.

М. КАЛІНОЎСКІ.

## АНОНС

У гэтым і наступных нумарах мы прадставім Вам, шаноўны чытач, матэрыялы, напісаныя Старшынёй Сойму БНФ «Адраджэньне» народным дэпутатам краіны З. Пазьняком. Сачыце за газетай.

## «Ленинград! Ленинград! Я ещё не хочу умирать!»

Ідучы праз нашу краіну ў «калыску рэвалюцыі» і назад, дзевятнаццаць цягнікоў спыняюцца ад 2 да 16 хвілін на чыгуначнай станцыі Гарадок. Апошнім часам тутэйшае «Расписание движения поездов» (пры нязменным загалоўку) прыдбала новае змесціва ў выглядзе шкляных пластак з пададзенымі па-беларуску назвамі маршрутаў.

Адметная рыса ў параўнанні з віцебскім «Раскладам руху цягнікоў»: ва ўсіх дзевятнаццаці маршрутах фігуруе не Санкт-Пецярбург, а... Ленінград. На запытанні пасажыраў касірка адказвае, што назва «Пецярбург» яшчэ не прызнаная.

У. К.

## Сумесная заява

### Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай сялянскай партыі

Апошнія падзеі ў Вярхоўным Савеце ёсць толькі адлюстраванне абвастрэння крызісу ў эканоміцы і грамадстве. Галоўная яго прычына—імкненне правячых колаў закансерваваць існуючую сістэму, іх нежаданне праводзіць рэформу па пераходу да рынačнай эканомікі і дэмакратыі. Бяздарная палітыка ўраду і парламенту прывяла да таго, што многія прадпрыемствы на грані спынення, растуць цэны, падае ўзровень жыцця народа, а тым часам не прынята фактычна нічога для стварэння выйсця з крызісу. У варунках дэфіцыту харчавання атрымаць зямлю ўжо практычна немажліва, а ў многіх фермераў яе пачалі адбіраць.

Усім становіцца зразумелым банкруцтва правячага рэжыму, ягоная няздольнасць знайсці прымальнае выйсце з сітуацыі. У гэтых умовах наменклатура прымае сударгавыя намаганні, каб утрымацца ва ўладзе, спрабуючы выдаць за прычыны сваіх няўдач усё, што магчыма, апроч уласнай бяздзейнасці. Вынікам гэтага з'яўляюцца імпульсіўныя, непрадуманныя, часта ірацыянальныя дзеянні накшталт патрабавання далучэння да неіснуючай сістэмы калектыўнай бяспекі.

Гэтым жа тлумачацца спробы зняцця Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі С. С. Шушкевіча, які выступае за неўваходжанне Беларусі ў ваенныя блокі і правядзенне шырокай і справядлівай прыватызацыі. Шматдзённыя пустыя дэбаты па зусім неактульных на сённяшні дзень пытаннях на фоне эканамічных і сацыяльных праблемах, што абвастраюцца,—гэта сведчанне крызісу ўлады, поўнага банкруцтва правячага рэжыму. Імкненне зняць С. С. Шушкевіча выражае намер пракамуністычнай наменклатуры змяніць палітычны курс Беларусі, павярнуць яго ў зваротны бок ад таго шляху, па катораму ідзе ўвесь свет, устанавіць аўтарытарны рэжым.

Натуральна, што глава парламента стаў перашкодаю для ажыццяўлення такога павароту. Апошнія падзеі паказалі, што Вярхоўны Савет поўнасцю вычарпаў сябе. Ён прадстаўляе даўно мінулую эпоху. Адыёзны і непрадказальны парламент стаў органам, небяспечным для грамадства, які дэстабілізуе сітуацыю ў Рэспубліцы. Сёння не застаецца нічога іншага, як змагацца за датэрміновыя выбары.

Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі і Беларуская сялянская партыя звяртаюцца да ўсіх грамадзян Беларусі, партыяў, рухаў, грамадскіх арганізацыяў з прапановаю аб стварэнні шырокага дэмакратычнага Руху, каторы выступаў бы ў падтрымку С. С. Шушкевіча і базаваўся на наступных прынцыпах:

—датэрміновыя вольныя выбары парламента й органаў мяйсцовай улады;

—шырокая прыватызацыя ў інтарэсах народа, а не наменклатуры;

—павага да годнасці, правоў ў вольнасцяў чалавека;

—неўступленне Беларусі ў ванныя блокі;

Мы прапаноўваем у рамках Руху ствараць Грамадскія камітэты за датэрміновыя выбары, што дазволяць рэалізоўваць права грамадзянаў на выбранне вартых даверу органаў улады.

Званіце нам па тэлефонах у Менску:
(0172) 29-08-34, 34-38-35, 55-85-70, 27-29-12.

А. ДАБРАВОЛЬСКІ,
Старшыня АДПБ.

Я. ЛУГІН,
Старшыня БСП.



Зянон ПАЗЬНЯК

# ТАЛЕРАНЦЫЯ ЯК ВЫНІК КУЛЬТУРЫ

25—26 чэрвеня гэтага года ў Менску праходзіла міжнародная канферэнцыя, якую наладзіў Фонд імя Льва Сапегі і шэраг арганізацыяў. Абмяркоўвалі пытаньні таленацыі.

Можа здацца сімптаматычным, што канферэнцыя па талеранцыі адбылася ў Беларусі—краіне гістарычнай талерантнасьці і ўнікальных грамадзкіх узаемадачыненьняў, у краіне, якая некалькі стагодзьдзяў кіравалася ў сваёй дзяржаўнай дзейнасьці прынцыпам кансенсусу (liberum veto) і па сёньняшні дзень спажывае яшчэ горкія разбуральныя плады гэтай механічна зразуметай ідэі і абсалютызацыі індывідуальнай свабоды.

Нашыя продкі, нашчадкі наймагутнейшай дзяржавы, стварылі ўнікальную культуру, карыстаючыся прынцыпам свабоды і цярпімасьці. Яны ж і страцілі гэтую дзяржаву, дазволілі растаптаць, расьцягнуць, абпляваць сваю культуру, давёўшы прынцып свабоды да механічнага ўжываньня, а цярпімасьць да рабскага паніжэньня, якое ворагі нашага існаваньня называюць талерантнасьцю. Талерантнасьць магчымая паміж няроўнымі непадобнымі зьявамі адной прыроды. Але небясьпечная талерантнасьць са злом. Бо талерантнасьць схільная да прымірэньня. Прымірэньне ж са злом амаральнае, сьведчыць пра бясьсільле, вядзе да дэградацыі і выраджэньня.

Асноўныя паняцьці і іх дачыненьні вельмі важна высьветліць на ўзроўні ідэяў, каб не мець потым клопатаў і бедаў у грамадзтве. Бо мы жывем у чалавечай супольнасьці, гэта значыць у такім сьвеце, дзе першаснай зьяўляецца ідэя, не быцьцё, не закон прыроды, які гэтая ідэя асэнсоўвае. Асэнсаваньне ж стала магчымым з разьвіцьцём культуры. Гэта тады, калі протачалавек навучыўся зьвязваць сваё пражытае мінулае з будучыняй і стаў абмяжоўваць, стрымліваць сваю прыроду дзеля мэты. Такім чынам талеранцыя вынікае з гнасеалагічных падстаў культуры і зьяўляецца адной з важнейшых маральных ідэяў у чалавечым грамадзтве.

Кожная цывілізацыя, кожная сацыяльная сістэма, кожная нацыянальная культура ці этнічная супольнасьць вырашалі гэтую праблему ў гісторыі, крышталізавалі яе ў рэлігійных, этнічных ці палітычных прынцыпах, шукаючы аптымальнасьці. Універсальныя вечнасныя ці доўгатэрміновыя падставы талерантнасьці сфармаваныя Ісусам Хрыстом і выпрабаваныя гістарычна ў хрысьціянскім сьвеце. Усе палітычныя, сьвецкія, сацыяльныя этыкі і іншыя выяўленьні талерантнасці ўлічвалі, ці трактавалі па-свайму гэтыя ўніверсальныя прынцыпы, калі прыстасоўваліся да зьменлівых грамадзскіх сітуацыяў. Гэтая зьменлівасьць разьвіцьця прадвызначае і зьменлівасьць прыстасаваньня ўніверсальных ідэяў. Запозьненасьць пераменаў прыводзіць да супярэчнасьцяў і нават катаклізмаў.

На мой погляд, мы назіраем пачатак такога магчымага катаклізму ў Эўропе, які паказвае на крызіс эўрапэйскай дэмакратыі. Галоўная прававая і сацыяльна-палітычная ідэя талерантнасьці, якая ўзьнікла пасьля вайны ў вольным сьвеце і якая пакладзеная ў аснову цяперашніх уяўленьняў пра дэмакратыю ў Эўропе—гэта амерыканізаванае паняцьце правоў чалавека, дзе галоўным момантам зьяўляецца палажэньне не аб першаснасьці, прыярытэце правоў асобы перад нацыяй і дзяржавай. Ідэя на працягу некалькіх пасьляваенных дзесяцігодзьдзяў прайшла свой тыповы шлях ад дэкларацыі да ўвасабленьня ў палітыку, ад палітыкі да ўлады, ад ўлады да выяўленьня ў сістэме законаў, ад законаў да прымяненьня іх у грамадзтве, ад дзейнасьці заканадаўства да сацыяльных вынікаў. Цяпер мы назіраем пачатак крызісу гэтай ідэі.

Станоўчыя сацыяльныя яе вынікі—мір і дабрабыт. Эўропа аб'ядналася на дабрабыце і імкнецца да яшчэ лепшага дабрабыту, не заўважаючы, што мір паступова пачынае зьнікаць, што разам з прыярытэтам асобы зьнікае прыярытэт нацыі, а разам з тым і дабрабыт карэннай асобы, што жыве на спрадвечнай зямлі. Мільёны нацыянальных беспрацоўных саступаюць месца таннай рабочай сіле з усходу і ад гэтага не ратуюць ніякія абмежаваньні.

Так непрыкметна, спакваля тэзіс прыярытэту правоў чалавека, зразуметы механічна, пачынае працаваць супраць чалавека. Гэты крызіс ўсеабдымны. Гэта крызіс сістэмы, заснаванай на прымітыўнай аднабаковай трактоўцы ідэі. Разьвіцьцё яго можа прывесьці да таго ж выніку, да якога прывёў некалі нашу цывілізацыю прынцып liberum veto.

Непасрэдным сацыяльным наступствам эўрапэйскага крызісу ўвасабленьня ідэі прыярытэту асобы перад нацыяй могуць стаць успышкі нацыянальна-этнічных канфліктаў, а ў палітычным плане прыход да ўлады фашыстаў і права-радыкальных сілаў. Такія вось метамарфозы прыгожых ідэяў таленацыі мы назіраем у мінулым і цяперашнім жыцьці. Не сумняваюся, што Эўропа знойдзе выхад з гэтага становішча. Але пакуль што там дамінуе дэмакратычны касмапалітызм, пагрунтаваны на дабрабыце і абстрактных аднабаковых ідэях, абмяркоўваюць маастрыхскія фантазіі і т. п. палітычную белетрыстыку.

У заключэньне хачу адзначыць, што Беларускі Народны Фронт перад прыняцьцем новай праграмы руху дастаткова прааналізаваў гэтую сітуацыю ў Эўропе і магчымыя наступствы на шляху адраджэньня Беларусі. Мы зыходзім з тэзісу парытэту нацыі і правоў асобы. Канкрэтнае ўвасабленьне гэтага палажэньня будзе вызначацца заканадаўствам і палітыкай. Мы здаем сабе справу, якая агромністая праца наперадзе. Гэта праца на доўгі час. Асновай для яе могуць стаць, на мой погляд, здабыткі і маральныя каштоўнасьці нашай гістарычнай беларускай культуры талеранцыі і палітычная воля грамадзтва, здольнага ўвасобіць ў жыцьцё карысныя для сябе ідэі.

*Водгулле юбілею*

# Як гэта разумець?

Семдзесят пятыя ўгодкі з дня нараджэння лідэра былой КПБ-КПСС Пятра Машэрава, трагічна загінуўшага восенню 1980 года, былі адзначаны ў рэспубліцы так шырока, што гэта звярнула на сябе ўвагу ўсіх пластоў грамадства. Можа таму, што тут была адна вельмі прыемная акалічнасць. Моці не ўпершыню на беларускай зямлі за савецкім часам замест звыклага ачарнення былых кіраўнікоў аддавалася даніна павагі адышоўшаму, адзначаліся яго мужнасць, настойлівасць, імкненне ісці ўперад. Многа гаварылася аб таленце Пятра Машэрава, яго інтэлігентнасці і чуласці.

Насцярожыла толькі тое, што ўсё было так заглянцавана і заружоўлена, што сапраўдны вобраз былога лідэра знік, а той, што быў паказаны, стаў іканастасным, нерэальным. Толькі ў адзінай публікацыі А. Класкоўскага ў «Народнай газеце» за 12 лютага зроблена кволая спроба паказаць, кім у сапраўднасці быў Машэраў.

Існуе такая думка, што аб палітыках можна сказаць праўду толькі, калі пройдзе 50 год пасля іх смерці, бо на першым часе тыя, каго ён пакрыўдзіў, будуць чарніць, а тыя, з кім быў у хаўрусе—толькі хваліць. Трэба, каб прайшоў час і сціхлі эмоцыі. Але гэта не адносіцца да былога лідэра камуністаў, бо вялікім, на жаль, ён не быў і не з'яўляўся лідэрам нацыі, а быў толькі артадаксальным перыферыйным важаком камуністаў і іх прыхільнікаў, і то не ўсіх, а толькі найбольш апантаных. Такім для іх ён застаецца і зараз.

Канешне, Пётр Машэраў вёў гульню ў вялікія, а на самой справе не мог выйсці з ланцугоў і абмежаванняў той сістэмы, у якую паверыў і сумленна якой служыў. Тут ён мог толькі закапаць свой талент, калі ён у яго быў, што і зрабіў.

Скажыце, якая карысць беларускаму народу ад таго, што Пётр Машэраў дабіваўся павелічэння прамысловай вытворчасці найперш за лік размяшчэння, напрыклад, экалагічна шкодных прадпрыемстваў хімічнай прамысловасці, якую не хацелі прымаць у сябе іншыя рэгіёны, у такіх буйных гарадах як Магілёў, Гародня, Навапалацк? Там зараз немагчыма жыць. Хворыя паветра, вада, зямля і людзі. А буйныя жывёлагадоўчыя комплексы, якія ператварылі Беларусь у суцэльны свінушнік, пад чыёй камандай ствараліся? Каб Пётр Машэраў быў лідэрам нацыі, то ён не прывязваў бы эканоміку краіны цуглямі сыравіннай залежнасці да «старэйшага брата», а ствараў бы пераапрацоўчую прамысловасць на мясцовай сыравіне.

Становіцца зразумелым, чаму так пыхліва ўсхваляўся Пётр Машэраў у юбілейныя дні. Ёсць людзі, зацікаўленыя паказаць, што былі камуністы—важакі на Беларусі і зараз у кампартыі знойдуцца лідэры, здольныя павесці нацыю наперад, беражы нас божа ад гэткага лідэрства!

Толькі народ Пётр Машэраў не ўзначальваў, а духоўна прыгнятаў, вытраўляў усё беларускае. Гэта ж пры ім выключаліся студэнты БДУ толькі за тое, што хацелі, каб лекцыі для іх чыталіся на беларускай мове. А навукоўцы АН за што выштурхоўваліся з інстытутаў? За беларускасць. Смешна чуць, калі родзічы Машэрава гавораць, што ён любіў слухаць беларускую мову (як мала засталося ў яго ад нацыянальнай свядомасці!), а гаварыць не хацеў, карыстаўся чужой—расейскай мовай. Працаваў над вымаўленнем, бо маскоўскія гаспадары маглі быць незадаволенымі, калі б пачулі беларускі акцэнт у мове іх падначаленага. На сумленні Пятра Машэрава тысячы зачыненых беларускіх школ і тое манкуртства, якое раз'ядае нацыю і зараз. Аказваецца, ёсць зацікаўленыя, каб гэта адкінуць і пахаваць. Не, даруйце, панове, нацыя гэтага не забудзе!

У елейным юбілейным тумане Пётр Машэраў прадстаўлен такім уздымальшчыкам сельскай гаспадаркі, што проста дзіву даешся. Праўда, барознаў у паветры на сваім верталёце ён праклаў нямала над беларускімі нівамі і любіў як анёл спусціцца дзенебудзь на полі, пагаварыць з трактарыстам ці камбайнерам і навучыць іх, як жыць. А у гэты час у неба пільна глядзелі раённыя начальнікі і бегалі да сеўшага верталёта. Калі заўважаўся які-небудзь недахоп, то Пятро Машэраў узнімаў пальчык і загадваў: старшыню калгаса зняць, з партыі выключыць. Верныя дэмакратычнаму цэнтралізму раённыя начальнікі ў той жа дзень распраўляліся з сумленным чалавекам, добрым гаспадаром, якога паважалі людзі і нават яны самі. Чаго толькі вартая паступовая ліквідацыя неперспектыўных вёсак, якую так прыспешваў і заахвочваў лідэр камуністаў. Няўжо Пётр Машэраў, якога прыхільнікі лічылі таленавітым чалавекам, не разумеў, што азначае гэта для беларускай нацыі?

А нарыхтоўка галінкавага корму для жывёлы? Уся рэспубліка смяялася з гэтага эксперыменту і, топчачы травы, «смехам» секла «дровы для жывёлы». Асабліва жахаліся сяляне, на вяку якіх такога ніколі не было. Голле клалася ў сіласныя ямы разам з травой. Сілас гніў. І гэтым гніллём «ратавалі» жывёлу ад бяскорміцы. Колькі маладняку загінула ў калгасах і саўгасах ад такога корму?!

Пётр Міронавіч любіў выконваць роль «агранома», асабліва, калі з-пад крыла верталёта вызначалася гатоўнасць глебы да пасеву. Адзін год ён аддаў каманду пачаць сяўбу напрыканцы сакавіка. Пасеялі сотні тысяч гектараў. А потым выпаў снег, прыціснуў мароз. Пасля пацяплення давялося перасяваць. Колькі было спалена паліва і колькі дзесяткаў тысяч тон збожжа зноў кінута ў глебу? Ці адказаў хто за гэта марнатраўства? Ніхто.

І яшчэ партыйны лідэр пакінуў заўважаны след у памяці народа тым, што непераўзыйдзена паўтарыў пацёмкінскую вёску. Па тых дарогах, дзе меўся праехаць Машэраў, ішоў шорах. Дзень і ноч распілоўвалі лес і рабілі прысады, фарбавалі іх, перакрывалі дамы, заасфальтоўвалі хоць бы тонкім слоем асфальту дарогі, каб толькі добра пракацілася начальства. Словам, наводзілі глянец. І як шкадавалі грошай, калі вяльможны эскорт мяняў курс альбо зусім не прыязджаў.

Аб якой любві да народа Пятра Машэрава можа ісці гаворка, калі ён нічога не хацеў даць яму. Напрыклад, усе ведалі, што лідэр партыі быў супраць таго, каб рабочым ды служачым выдаваць участкі зямлі пад агароды і лецішчы. І не давалі. Баяліся развіцця ў народзе пачуцця прыватніка. Хіба ж не смешна гэта! А сам, як адзначалі ў інтэрв'ю родзічы, любіў «падумаць» у сауне на лецішчы. Толькі пасля трагедыі Пятра Машэрава людзі атрымалі зямлю і доступ да прыроды. Праўда, лідэр камуністаў з папулісцкіх намераў, інакш не скажаш, любіў пусціць пыл у вочы людзям. Напрыклад, часам заглядаў у магазіны і часам знаходзіў там прыхаваныя дэфіцытныя прадукты, якія тут жа падаваліся ў продаж. Людзі думалі: які клапатлівы кіраўнік. Мэта дасягалася. А кіраўнік сам ведаў, што колькасць прадуктаў ад гэтага не павялічваецца і дэфіцыт, як быў, так і застаецца.

Няхай ніхто не думае, што ўсё добрае і ўсё благое, што зрабіў Пётр Машэраў, забыта народам. Не, яно застаецца з ім. І таму праўда аб Машэраве яшчэ будзе сказана. Але сёння ўжо можна сказаць, што бацькам нацыі ён не мог стаць і не быў, а застаўся толькі лідэрам адкінутых народам камуністаў.

Ул. КУЛАЖАНКА,
прафесар.

У пасёлку N

# «ЦІКАВЫ» ВОПЫТ

З пераменай кіраўніцтва на адным з прадпрыемстваў Віцебскай вобласці шмат што змянілася ў жыцці працоўных ды й жыхароў пасёлка. «Разумеючы» неабходнасць перамен, начальства вырашыла разводзіць фарэль, тым больш, што памяшканне было—былая механічная майстэрня, з прыямкамі для агляду тэхнікі. Там бы рыбка, відаць, і плавала. Ну, у жыхароў і рабочых слінкі пацяклі, але дачасна.

Перадумалі. Загаварылі пра шампіньёны. Грыб добры, але спажыўцу не вельмі вядомы. Дзякуй богу, атручванняў не было, бо не было і грыбоў.

Помнікі гранітныя прывезлі з Санкт-Пецярбургу. Свайго граніту ў Беларусі, відаць, не знайшлі.

Потым жыхары смакавалі чэшскае піва, толькі ў думках, праўда. Усё ж такі ў адным з цэхаў устанавілі ганчарны круг, вырашылі закідаць Беларусь гаршкамі, але ж ці многа з яго накідаеш? Дэманціравалі цэх, каб пераабсталяваць пад выпуск ганчарных вырабаў. Але прыйшлі 2 вагоны з лесам з Полацку для вырабу мэблі, бачна, на прадпрыемстве захаваліся. Так што хутка мэбляй заваляць. Прыязджайце набываць!

А шчыра і сур'ёзна кажучы, калі ж, нарэшце, пазбавімся ад такіх гора-кіраўнікоў ды будзем сумленна працаваць, займацца кожны сваёй працай, той, што з вякоў займаліся дзяды ды прадзеды?

Ігнат ВАСІЛЕЎСКІ

# «Перамога» калгаснага ладу

Магчыма, у бліжэйшы час у Віцебскім раёне на адну калектыўную гаспадарку паменее.

У калгасе «Перамога» склалася надзвычай цяжкае фінансавае становішча. 1 чэрвеня на ягоным рахунку было 98 тысяч рублёў. А даўгоў...

Даўгоў толькі па кароткатэрміновых пазыках трэба выплаціць амаль 30 мільёнаў.

Раённае ўпраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання паскардзілася на гэтакі стан рэчаў намесніку старшыні аблкамсельгасхарча (пакуль вымавіш—язык зломіш) А. Азарчанкаву. І папрасіла аказаць дапамогу амаль у 200 мільёнаў. Аднак спадзяванне на помач зверху невялікае. Як альтэрнатыву раённыя кіраўнікі прапанавалі таксама далучэнне «Перамогі» да бройлернай птушкафабрыкі «з пераглядам спецыялізацыі вытворчасці».

А. СЯЛЯНСКІ.

# АБ ЛОЗУНГАХ

Аб сэнсе словаў «патрыятызм», «нацыяналізм», «інтэрнацыяналізм» можна дыскутаваць доўга. Гэта ўсё пэўныя формы адданасці, імкнення, страсці. Абыякавы чалавек не можа быць патрыётам. Аднак жа не называем мы патрыётам аматара рыбнае лоўлі, спіртных напояў ці жанчын, заўзятараў футбольнае каманды «Дзвіна» або прыхільнікаў рок-гурта «Грамада». Тут ёсць іншыя азначэнні: гурман, залётнік, фанат, знаўца... Значыцца, патрыёт—чалавек, адданы не чаму ці камунебудзь, а свайёй Радзіме, свайму народу.

Адсюль цяжкасці ў тлумачэнні кампартыйных лозунгаў «сацыялістычнага патрыятызму» ды «пралетарскага інтэрнацыяналізму». З першага вынікае, што любіць трэба не ўвесь народ, а таварышаў, адданых справе сацыялізму. Адарванасць ад асновы відаць няўзброеным вокам: камуністамі становяцца, а беларусамі нараджаюцца. Выдае на тое, што камуністы любілі і любяць не Беларусь, а свае ідэі на Беларусі. Што да другога лозунга, то нягледзячы на існаванне I—IV Інтэрнацыяналаў і аднайменнага гімна, камуністы самі дагэтуль не разумеюць, пра што кажуць. Калі інтэрнацыяналізм—адданасць, то каму ці чаму? «Inter» па-лацінску «паміж», таму сэнс лозунга нейкі няўлоўны. У апошніх работах У. Ленін піша: «Тут встает уже важный принципиальный вопрос: как понимать интернационализм?», аднак адказу не дае і на гэтым артыкул канчаецца. Дагэтуль слова «інтэрнацыяналізм» у ленінскіх работах не сустракаецца.

Ва ўсялякім разе, у цывілізаваным свеце так, як у нас («интернациональный долг в Афганистане»), ніхто інтэрнацыяналізм не разумее. Ды і бяда не ў мудрагелістых лозунгах, а ў тым, што іх трубадуры імі не кіруюцца.

Калі ўчарашні апалагет марксісцка-ленінскае дыялектыкі, а сённяшні актывіст СС (Славянскага Сабору) збірае подпісы супраць беларускае мовы, ім рухаюць не лозунгі. Гэта такі сверб ідэалагічнага жакея—пры любым павароце падзей быць першым. Жакей адчувае, што на яго ўжо паставілі замежныя ўплывовыя сілы. Каніска ягоны, праўда, кволы і лядашчы, бо расейскімі шавіністамі за трыста гадоў заезджаны. Але пры чым тут патрыятызм ды інтэрнацыяналізм? Ніякіх лозунгаў, звычайны асабісты інтарэс.

Калі лідэр віцебскіх камуністаў прылюдна зычна апавядае, што ў яго «мать белоруска, а отец военный» і што ў выніку распаду імперыі ўсе сваякі апынуліся ў розных краінах, то асабістую крыўду па-чалавечы можна зразумець. Ды толькі ў чым вінаватыя беларусы? Бо гэты таварыш, як і ўвесь хаўрус, змагаецца з мовай народа (гл. раздзел II Праграмы ПКБ). Тут ужо не асабістая помста, але помста палітычна арганізаваная. За хібы ў нацыянальнай палітыцы ў адносінах да сваіх крэўнікаў недзе—адпомсціць тут, на Беларусі! Усё роўна, каму. Цікавая логіка ўчарашніх носьбітаў марксізму-ленінізму. Дзеля справядлівасці адзначым, што ў У. Леніна ёсць багата слушных думак па нацыянальным пытанні, і нават самы заяцыты пэкабель мусіць ведаць гэта. Але зараз погляды правадыра сусветнага пралетарыяту не супадаюць з асабістымі поглядамі новых правадыроў, і поўны збор яго твораў буцвее недзе ў зарасніках чырвонага дурнап'яну.

Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў створана ў цяжкія для нашай Радзімы жнівеньскія дні 1991 года. Арганізацыя прапагандуе гераічную беларускую гісторыю і тым спрыяе патрыятычнаму выхаванню ў войску. А вось мы чытаем у «Народнай газеце» (14.05), што «приказом № 0499 министра обороны... уволен в запас председатель Белорусского объединения военнослужащих... за дискредитацию высокого звания офицера». І ў той жа газеце (18.05) чытаем, што той жа міністр абароны «сетует на ограниченность призывных ресурсов, **отсутствие военно-патриотического воспитания** и как следствие—снижение престижа военной службы». Дык што гэта: звышпатрыятызм ці пралетарскі інтэрнацыяналізм? Гэта звычайная крывадушнасць, якая спатрэбілася, каб схаваць асабістае раздражненне, алергію на справядлівую крытыку і карысную дзейнасць іншых на фоне асабістае бяздзейнасці.

Можна доўжыць і доўжыць прыклады «патрыятычных» учынкаў нашых сучасных палітыкаў. Але здаецца, досыць і гэтага, каб зразумець, што ў аснове ўсёй іхняй дзейнасці—не камуністычныя ідэалы і нават не перакананні, а асабісты кан'юнктуры інтарэс.

**У. КАСТУСЕНАК.**

## Парада для ўлады Саветаў

Нікога не здзівіш, кажучы, што за часы Саветаў улады разбуралі многія помнікі гісторыі ды культуры. Вынішчэнне нацыянальнай спадчыны дзесяцігоддзямі праходзіла у рэчышчы дзяржаўнай палітыкі.

Але, дарэчы, чаму «праходзіла»? Мы ж і зараз жывём пры Савецкай уладзе, «дбаннем» якой спіс загубленых скарбаў мінуўшчыны папаўняецца... Нягледзячы на прыняты Закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны».

У 1989 годзе Віцебскі гарвыканкам перадаў абласному ўпраўленню бытавога абслугоўвання насельніцтва помнік архітэктуры—дом № 2 у завулку Кастрычніцкім. А начальнік УБАН Ю. Галыкін прадаў будынак камерсанту С. Галыкіну, свайму сыну. Сам гэты факт ужо заслугоўвае ўвагі, але галоўнае—парушаны арт. 22 вышэйзгаданага Закона.

Хто ў нас наглядае за выкананнем законаў? Як быццам, пракуратура. Але на гэты раз аблпракуратура, можна сказаць, ухілілася ад выканання сваіх абавязкаў. Вось які адказ яна даслала на запыт інспектара Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў Н. Сулецкай: «...З улікам растлумачэння Галыкіна С. Ю. Вам варта ажыццявіць кантроль за выкананнем ім прадпісання, а ў выпадку яго невыканання прымаць меры, якія прадугледжаны Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны».

Між іншым, раней тая ж аблпракуратура зацягвала вырашэнне пытання пра помнік гісторыі і культуры Гарадзішча ў Гарадоцкім раёне. Ды так, што справа тады дайшла да рэспубліканскай пракуратуры.

Размаўляць з нашым карэспандэнтам аб лёсе будынка па Кастрычніцкім завулку начальнік агульнага аддзела абласной пракуратуры А. Тарасаў не пажадаў. С. Галыкін заявіў, што ён не ведаў аб наданні дому статуса помніка. Магчыма, і сапраўды не знаў. Але няведанне каштавала будынку многага. Згарэў дах, выламаны дзверы, рамы, падлога.

Ён «не ў курсе». А як зразумець пазіцыю гарвыканкама? Няўжо віцебская ўлада таксама нічога не ведае? Ці не хоча? Ды і як іначай, калі першы намеснік старшыні выканкама В. Лапінскі адначасова з'яўляецца кіраўніком гарадскога таварыства аховы помнікаў?

Не хапае, мусіць, Вячаславу Кірылавічу часу на нейкія там гістарычныя ці мастацкія каштоўнасці? Можа таму, што стварае свае: будуе архітэктурны помнік нашага часу—уласны катэдж. Рабіць сабе помнік на вякі—справа нялёгкая.

Разбураць жа сапраўднае дойлідства продкаў або патураць таму нашыя ўладары навучыліся добра. Каб зноў не было паўтарэння падобнай гісторыі, што здарылася з домам у Кастрычніцкім, ці не варта віцебскаму гарвыканкаму прыслухацца да прапановы прадаваць нерухомасць не ўпотайкі, а на адкрытых аўкцыёнах, галосна? А то складаецца ўражанне, што гарадскія ўлады імкнуцца выкарыстаць момант і прадаць дзяржмаёмасць «сваім» людзям.

**А. БУКАЧОЎ.**

*З архіваў*

# «Бухгалтэрыя» смерці



*Помнік ахвярам гітлераўскага фашызму ў Віцебску.*

Фотаздымак **А. ЛАКАТКО.**

**Мы працягваем друкаваць спісы вязняў Віцебскай гарадской турмы СД. Пачатак публікацыі—у «Выбары» №№ 17—21. Спісы друкуюцца паводле дакумента «Рэгістрацыйны журнал асоб, арыштаваных СД», які вёўся на нямецкай мове і ахоплівае перыяд з чэрвеня па снежань 1942 года. Мы імкнёмся максімальна перадаць асаблівасці арыгінала.**

**Непаслядоўнасць дат ды недакладнасць некаторай іншай інфармацыі, якія сустракаюцца ў спісе, тлумачацца тым, што менавіта так яны пададзены ў дакуменце. У якіхсьці імёнах і прозвішчах вязняў магчымыя скажэнні ў выніку падвоенага перакладу—з рускай мовы на нямецкую і наадварот, а таксама з-за асаблівасцяў рукапіснага арыгінала.**

**Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку супрацоўнікам Віцебскага абласнога архіва за дадзены дакумент.**

### Тетрадь № 8

**Фонд 2155, опись 2, дело 5**

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2608 | 52 | Мергурова Нина | из больницы |
| | 1 | 2437 | 32 | Михайловский Адам | суд |
| 1 | | 2609 | 15 | Слабуха Александр | СД |
| | 1 | 1461 | 97 | Ермолоюнь Иван | СД |
| | 1 | 1462 | 97 | Сейков Владимир | СД |
| 1 | | 2610 | 15 | Жданок Николай | жандарм |
| 1 | | 2611 | 15 | Мишин Семен | жандарм |
| 1 | | 2612 | 15 | Ласовский Леонид | СД |
| 1 | | 2613 | 15 | Ованов Влад. | СД |
| 1 | | 2614 | 12 | Игналева Галина | СД |
| 1 | | 2615 | 12 | Климкович Ольга | 1 полиц. уч. |
| 1 | | 2616 | 12 | Лавренков Шифро | СД |
| 1 | | 2617 | — | Кнёсс Адам | нем. суд |
| 1 | | 2618 | — | Ольденмайер Ганс | нем. суд |
| 1 | | 2619 | — | Шухман Рудольф | нем. суд |
| 1 | | 2620 | — | Вольц Густав | нем. суд |
| 1 | | 2621 | — | Альбрехт Генрих | нем. суд |
| 1 | | 2622 | — | Флорен Франц | нем. суд |
| 1 | | 2623 | — | Шмидт Генрих | нем. суд |

**26.6.42 г.**

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2615 | 10 | Климкович Ольга | |
| | 1 | 2396 | 87 | Куперман Хано | |
| | 1 | 2502 | 45 | Плиско Петр | в больницу |
| 1 | | 2624 | 15 | Штрах Нонес | 5 полиц. участок |
| 1 | | 2625 | 15 | Церевман Лёва | 5 полиц. участок |
| | 1 | 2438 | 39 | Кишкова Вера | перед суд |
| 1 | | 2426 | 12 | Штахевич | |
| | 1 | 2237 | 26 | Шуляк Василий | |
| | 1 | 2527 | 87 | Якубовский Иван | СД |
| | 1 | 2528 | 90 | Тихий Николай | СД |
| | 1 | 2529 | 90 | Кувацкий Ав. | СД |
| | 1 | 2530 | 90 | Шуб Павел | СД |
| | 1 | 2532 | 97 | Нехком Мибов | СД |
| | 1 | 1670 | 88 | Гердиевская Луиза | СД |
| | 1 | 2628 | — | Киршуэр Леля | 2 пол. уч. |
| | 1 | 2629 | 15 | Герихивовихетт Константин | |
| | 1 | 2630 | 12 | Тихомирова Тамара | |
| | 1 | 2631 | 15 | Экштейн Павел | 2 пол. уч. |
| | 1 | 2632 | 15 | Фейшман Курт | 2 пол. уч. |
| | 1 | 2633 | 11 | Левич Вера | СД |
| | 1 | 2634 | 33 | Валюка Вера | СД |

**27.6.42 г.**

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2316 | 45 | Ларин Яфаму | |
| 1 | | 2635 | 12 | Шидловская Надя | СД |
| 1 | | 2636 | 12 | Денисова Нина | СД |
| 1 | | 2637 | 12 | Поляцкина Фаня | СД |
| 1 | | 2638 | 12 | Векшерская Паула | |
| 1 | | 2639 | 39 | Чепикова Милон | |
| 1 | | 2640 | 12 | Полахла Роза | 5 пол. уч. |

**27.6.42 г.**

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2641 | 101 | Васильев Павел | СД |
| 1 | | 2642 | 12 | Гуднавцева Ира | СД |
| 1 | | 2643 | 12 | Гольдлерг Лиза | СД |
| 1 | | 2644 | 101 | Подобед Иван | СД |
| 1 | | 2645 | 14 | Сарвазовский Яков | |
| 1 | | 2646 | 101 | Косников Дмитрий | СД |
| 1 | | 2647 | 101 | Мурох Пейсах | СД |
| 1 | | 2648 | 19 | Русовский Игнат | СД |
| 1 | | 2649 | 101 | Альшевский Юзеф | СД |
| 1 | | 2650 | 101 | Карпович Михаил | СД |
| 1 | | 2651 | 101 | Борисевич Яков | СД |
| 1 | | 2652 | 101 | Капиловский Ёзеф | СД |
| 1 | | 2653 | 101 | Орлов Петер | СД |
| 1 | | 2654 | 18 | Струнклевич Иван | СД |
| 1 | | 2655 | 101 | Авдюх Шенион | СД |
| 1 | | 2656 | 101 | Скуратович Александр | СД |
| | | 2657 | 101 | Вольнуч Юзеф | СД |
| 1 | | 2658 | 16 | Сухман Лёва | СД |
| 1 | | 2659 | 17 | Кац Лёва | СД |
| 1 | | 2660 | 101 | Филькович Петр | СД |
| 1 | | 2661 | 101 | Ильин Иван | СД |
| 1 | | 2662 | 101 | Чернявский Эдуард | СД |
| 1 | | 2663 | 101 | Левицкий Доминик | СД |
| 1 | | 2664 | 101 | Клочков Ёзеф | СД |

(Працяг у наступным нумары).

# Запрашаюць мастакі – педагогі



Алесь Мемус. Цэнтральная частка трыптыха «Святло веры» (акварэль). Прысвячаецца Еўфрасінні Полацкай і тысячагоддзю хрысціянства на Беларусі. 1992—93.

У выставачнай зале Саюза мастакоў працуе выстава выкладчыкаў мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута, дзе экспануецца калекцыя твораў жывапісу графікі, скульптуры, габелена. Пераважная большасць творча працуючых членаў кафедры выяўленчага мастацтва традыцыйна, раз у пяць год, дэманструе свае творчыя здабыткі, якія карыстаюцца асабліва падкрэсленай увагай віцебскага гледача, бо многія з маладых і ўжо не вельмі маладых віцьблянаў, неабыякавых да мастацтва, так ці інакш дакрануліся да таямніц віцебскае мастацкае школы, вучыліся ці былі знаёмыя з большасцю мастакоў-педагогаў, што дэманструюць сёння сваё мастацтва свайму гораду.

Сярод удзельнікаў выставы вы знойдзеце імёны і вядомых майстроў, прызнаных не толькі горадам, але і ўсёй рэспублікай, убачыце творчыя адкрыцці яшчэ малавядомых і зусім маладых выкладчыкаў МГФ.

Усё ж разам адорыць вас святам фарбаў і пластыкі, узбагаціць вашу душу новымі адценнямі творча асэнсаванага быцця, а мо і натхніць на самастойную творчасць, нечакана ўзбудзіць і ў вас мастака.

А. Кастагрыз, А. Мемус, М. Ляўковіч, А. Карпан, М. Прусакоў, В. Несцярэнка, А. Чміль, А. Кавалёў, А. Філіпаў ды іншыя чакаюць вас і вашага прысуду.

**А. П.**

## Вясёлы глобус

Муж і жонка Фроліх выклікалі тэлемайстра. Калі ён прыйшоў, фрау Фроліх кажа:

—А ў нас з тэлевізарам усё зноў у парадку!

—Што, няспраўнасць выпраўлена?

—Ды не,—гаворыць фрау,—проста мы з мужам змянілі акуляры.

***

Гер Кноле купіў на пошце маркі. Праз пяць хвілін вяртаецца і гаворыць прадаўцу:

—Вы няправільна далі рэшту.

Прадавец:

—Ужо позна казаць аб гэтым. Трэ было адразу заявіць.

—Ну што ж,—прамаўляе Кноле, адыходзячы ад касы,—вы далі мне лішніх пяць марак.

Мяняю прыватызаваную 2-пакаёвую (26 м$^2$, палепшанай планіроўкі, 5 паверх пяціпавярхоўкі) кватэру ў цэнтры Жлобіна на раўназначную ці меншую ў Віцебску. Тэл. у Віцебску 36-20-12.

**У АСНОЎНЫМ З ЛАТВІІ**

Сёлета на сталае жыхарства ў Мёрскі раён пераехала з рэспублік былога СССР дзесяць сем'яў.

## Праграма мастацкіх фільмаў на рэшту тэлетыдня

### Серада, 14 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.25.** «Вольны вецер». 1-я серыя.
**9.30 і 21.35.** «Дзяжурная аптэка».
**10.00.** «Дзень добры і бывай».
**13.40.** «Доўгая дарога ў дзюнах». 3-я серыя.

**Канал «Астанкіна»**

**8.35 і 18.00.** «Проста Марыя».
**10.20 і 20.40.** «Азбука кахання».
**11.20.** «Госця з будучыні». 2-я серыя.
**12.25.** «Шлях гераіну». 2-я серыя.

**Канал «Расія»**

**10.50.** «Санта-Барбара».
**13.25.** «Дзмітры Кантэмір».
**19.25.** «Камісар Мегрэ» (Францыя).

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**8.10.** «Мая другая мама».
**10.05.** «Жыве такі хлопец».
**12.40.** «Сышчык». 2-я серыя.
**14.40.** «Зорка і смерць Хаакіна Мур'еты».

### Чацвер, 15 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.25.** «Вольны вецер». 2-я серыя.
**9.30 і 21.45.** «Дзяжурная аптэка».
**11.20.** «Перад досвіткам».
**13.40.** «Доўгая дарога ў дзюнах». 4-я серыя.
**15.25.** «Па сакрэту ўсяму свету».

**Канал «Астанкіна»**

**8.40 і 18.10.** «Проста Марыя».
**10.20.** «Азбука кахання».
**11.20.** «Госця з будучыні». 3-я серыя.
**12.25.** «Шлях гераіну». 3-я серыя.
**21.10.** «Вялікая сям'я».

**Канал «Расія»**

**11.05.** «Адзін раз схлусіўшы».
**19.25.** «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**8.15 і 23.45.** «Спяшайцеся будаваць дом».
**14.40.** «Не хачу быць нешчаслівым».
**21.00.** «Мая другая мама».

### Пятніца, 16 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**9.30.** «Дзяжурная аптэка».
**13.40.** «Доўгая дарога ў дзюнах». 5-я серыя.
**22.05.** «Ранішняя шаша».

**Канал «Астанкіна»**

**8.20.** «Лёгкія крокі».
**12.15.** «Дробязі жыцця».
**20.55.** «Суіні» (Вялікабрытанія). 3-я серыя.

**Канал «Расія»**

**11.05 і 19.25.** «Санта-Барбара».
**16.55.** «Маленькія разведчыкі». 2-я серыя.

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**8.05.** «Мая другая мама».
**14.40.** Кароткаметражныя фільмы.
**23.00.** «Мадэмуазель Стрыптыз» (Францыя).

### Субота, 17 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.20.** «Ранішняя шаша».

**Канал «Астанкіна»**

**18.15.** «Рыцары Х'юстана» (ЗША).
**20.40.** «Блакітнае і шэрае» (ЗША). 3-я серыя.
**1.15.** «Равучы тыгр» (Ганконг).

**Канал «Расія»**

**11.00.** «Аўтамабіль, скрыпка і сабака Клякса».
**19.25.** «Даруй».
**0.35.** «Чужыя тут не ходзяць».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**7.40.** «Мадэмуазель Стрыптыз».
**11.05.** «Чаромушкі».
**14.45.** «Зверабой». 1-я серыя.
**20.40.** «Мая другая мама».

### Нядзеля, 18 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**9.35.** «Дзяжурная аптэка».
**13.15.** «Фантан».
**17.55.** «Афоня».
**21.20.** «Аўтара, аўтара!»

**Канал «Астанкіна»**

**19.15.** «Дандзі па мянушцы «Кракадзіл» (Аўстралія).

**Канал «Расія»**

**11.05.** «Дзеці Дон-Кіхота».
**19.25.** «Старк».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**8.55.** «Мільён прыгод. Востраў Іржавага генерала».
**14.50.** «Зверабой». 2-я серыя.
**16.55.** «Родная кроў».

*Рэзананс*

## Ці будзе справядлівасць!

Некалькі гадоў назад пры Віцебскім гарвыканкаме была створана чарга грамадзян для куплі кватэр у асабістую маёмасць. Стаў у гэтую чаргу і я, пра што сведчыць і адказ начальніка жыллёвага ўпраўлення В. Сазона (ув. № 224, нумар чаргі 252). Летась чаргу ліквідавалі.

Нядаўна з прэсы даведаўся пра тое, што жыллё гарвыканкамам размяркоўваецца з хібамі, якія знаёмы многім віцьблянам па гадах застою. Таму й для мяне яны не навіна.

Паводле газетных матэрыялаў, 25 сем'яў г. зв. «інвестараў» з дазволу гарвыканкама набылі па нізкіх цэнах жыллё ва ўласнасць.

Прэса крытыкуе дзейнасць жыллёвага ўпраўлення. Калі члены гарвыканкама не ў стане самі навесці парадак, то няхай органы юстыцыі разбяруцца ў працы ўпраўлення.

Праўда, вось пытанне: ці стане лягчэй ад гэтага людзям, што стаялі ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў? Ці будзе справядлівае рашэнне для іх?

**У. ЖЫГУЛАЎ.**

Бясплатная магчымасць даць аб'яву: **тэл. 37-28-44.**

## Вытворча-камерцыйная фірма «Арти-фекс»

220072, Менск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакой 130, тэл. 39-49-38.

★ Карты, планы гарадоў і даведнікі па Беларусі для турыстаў і краязнаўцаў,

★ карты, планы гарадоў і даведнікі па краінах свету лепшых замежных выдавецтваў,

★ вялікі гістарычны атлас Беларусі ў 5-ці тамах,

★ вучэбныя мапы дый атласы для школаў і ВНУ,

★ картаграфія для кніг серыі «Памяць»,

★ картаграфічныя сувеніры,

★ картаграфічная рэклама,

★ старажытная картаграфія,

★ картаграфічны маркетынг і кансалтынг,

★ экспарт-імпарт картаграфічнай прадукцыі,

★ выданне рэдкіх кніг аб Беларусі,

★ выдаўнічыя паслугі аўтарам,

★ аператыўны друк, копі-шоп,

★ матэрыялы для мастакоў-жывапісцаў, графікаў і дызайнераў.

Аддзел «Арти-Фекс» у краме «Акадэмкніга»: Менск, пр-т Ф. Скарыны, 72, ст. метро «Акадэмія навук».

## Віною дождж!

Дождж, што апошнім часам надта часта йдзе, падмочвае не толькі «стомленыя» ад надакучлівых ападкаў парасоны віцьблян, але й рэпутацыю гарадскіх камунальных службаў.

Каналізацыя не паспявае паглынаць ваду, і час ад часу жыхары вуліцы 39-ай Арміі становяцца сведкамі паводкі. Яна залівае дарогу, ходнік, змушае прахожага, што спышыць да прыпынку, далёка абыходзіць гіганцкую лужыну.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**



Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

●

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

●

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

●

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл. 37-35-06, 37-28-44.**

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры передруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

Выходзіць штотыднёва па сярэдах

Нумар падпісаны да друку 13.09.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 5 руб.**